Уладзіслаў Сыракомля

# Згадкі Нясвіжа

*Санеты*

*...возерам шырокім гожае мясціны*
*...таіць каменны старац — і пад час вячэры*
*...н з вежы збеглыя вызвоньвае гадзіны,*
*...акуль апошніх хвіль сваіх не выб'е меры.*

*...грудзях яго, як у грудзях старых жаўнераў,*
*...ра ... толькі даўнія ўспаміны, —*
*...ярпіцецць і мінуласць ён з пагардай зверыў,*
*...о знаў ... рацькоў — з сыноў смяяцца ёсць прычыны.*

*...і ажыве? Ці ўскрэсіць ён даўнейшасць лёсаў,*
*...а-радзівілаўску — не адышла надзея —*
*...ішто ... вежамі сягае да нябёсаў.*

*...ільнуе ...а гербоў і папяровых стосаў,*
*...ы се... сці, якая — Божа! — спарахнее,*
*...к слова без значэння, як трава без росаў.*

Władysław Syrokomla

# Wspomnienia Nieświeża

*Sonety*

УДК 821.162.1-1
ББК 84(4 Пол)-5
С 88

*Кніга выдадзена пры падтрымцы
Польскага інстытута ў Мінску*

**Сыракомля У.**

С 88 Згадкі Нясвіжа: Санеты /Уладзіслаў Сыракомля; Пер. з пол. У. Мархеля. – Мн.: Тэхналогія, 2002. – 20 с.
ISBN 985-458-061-X.

Нясвіж – лёсавы горад для У.Сыракомлі і Беларусі. І ў санетах вясковага лірніка – лучнасць мінулага і сучаснасці.
Для аматараў паэзіі.

УДК 821.162.1-1
ББК 84(4 Пол)-5+84(4 Бел)-5

ISBN 985-458-061-X

*W czasach Władysława Syrokomli Nieśwież przeżywał zaniedbanie po dwóchsetletniej sławie Radziwiłłów. To jednak nie przeszkodziło poetowi przez całe życie zachować wdzięczność dla zacofanego miasteczka z bogatą historią. Właśnie tu uczęszczał do szkółki powiatowej przy klasztorze dominikańskim, służył w kancelarii zarządów poradziwiłłowskich i prowadził kwerendę archiwalną majoratu, żeby wkrótce napisać artykuł do opracowania Michała Balińskiego „Starożytna Polska". W szkicu krajoznawczym „Wędrówki po moich niegdyś okolicach" (1853) lirnik wioskowy poświęcił Nieświeżowi najobszerniejszy z rozdziałów. Po raz kolejny wróci do tematu Nieświeża w poemacie p.t. „Szkolne czasy" i reminiscencji poetycznej „Iluminacja". W kwietniu 1844 roku stanie przed ołtarzem w farze Nieświeskiej z Pauliną Mitraszewską. Stamtąd uda się do folwarku nadniemeńskiego Załucze, gdzie mu przeznaczone było poczuć się poetą i w 1844 roku stworzyć cykl sonetów „Wspomnienia Nieświeża", sonetów, które naznaczone są energią poetyckiego światospozierania wzniesionego ponad utylitarność bycia.*

*У часе Уладзіслава Сыракомлі Нясвіж перажываў занянад пасля двухсотгадовай славы Радзівілаў. Але гэта не перашкодзіла паэту праз усё жыццё пранесці ўдзячнасць занядбаламу мястэчку з багатай гісторыяй: тут ён вучыўся ў павятовай школе пры дамініканскім кляштары, тут служыў у канцылярыі кіраўніцтва парадзівілаўскімі маёнткамі і вывучаў архівы маярату, каб напісаць артыкул пра мінулае мястэчка для "Старажытнай Польшчы" Міхала Балінскага. У краязнаўчым нарысе "Вандроўкі па маіх былых ваколіцах" (1853) вясковы лірнік прысвяціў Нясвіжу самы аб'ёмісты раздзел. З мястэчкам лучыцца таксама змест яго паэмы "Школьныя часы" і паэтычная рэмінісцэнцыя "Ілюмінацыя". У нясвіжскай фары ў красавіку 1844 года Сыракомля абвянчаўся з Паўлінай Мітрашэўскай. Адсюль ён павёз жонку ў прынёманскі фальварак Залуча, дзе яму было наканавана ўсвядоміць сябе паэтам і ў 1844 годзе напісаць цыкл санетаў "Згадкі Нясвіжа", санетаў, якія пазначаны энергіяй паэтычнага светасузірання, узнятага па-над утылітарнасцю быцця.*

*WSPOMNIENIE*

*Gdzie po dwuwiecznym gwarze cisza uroczysta*
*Zalegla Radźwiłłowskich złotych sal obszary,*
*W murach, co pamiętają byt świetny, byt stary,*
*Ja włokłem dni powszednie, biedny bióralista.*

*W starym blaszanym hełmie chowałem cygary,*
*A otrząsłszy zbutwiałe malowidła z pyłów,*
*Kiedy wiatr bił do okna, zastawiałem szpary,*
*Obrazami Ostrogskich, Sapiehów, Radźwiłłów!*

*W grobach, w gruzach, w gawędach, i na starem płótnie*
*Tylko przeszłość przelotem swój cień zostawiła, —*
*Czytałem po tych cieniach — bolejąc okrutnie;*

*Bom widział! że ta przeszłość — choć zmarła, nadgniła,*
*Jeszcze przy naszym wieku wyglądała butnie,*
*Jak wśród wioski nędzarzów, rycerska mogiła.*



*УСПАМІН*

*Дзе цішыня па шуме доўгім урачыста*
*Лягла на залаў радзівілаўскіх абшары,*
*Там у мурах, што прошласці хаваюць чары,*
*І я свае мітрэнжыў дні канцылярыста.*

*У шоламе бляшаным я хаваў цыгары,*
*Партрэтамі ж, збуцвелымі пад пылам,*
*Я застаўляў ад ветру і дажджлівай хмары*
*Адтуліны у вокнах замка Радзівілаў.*

*У трунах, гутарках і на старых палотнах*
*Мінуласць мімаходзь, нібыта цень, застыла, —*
*Я цені гэтыя чытаў — і быў самотны,*

*Бо знаў, што хоць мінуласць змерла, адступіла,*
*У нашым веку мела выгляд шчэ дабротны,*
*Нібы сярод бядоты рыцара магіла.*



## *MIASTO*

*Małe i liche miasto stoi w rozwalinie —*
*Tu i ówdzie wśród gruzów nowy mur się błyszczy,*
*Tu i ówdzie wieżyce, klasztory, świątynie —*
*Póki czas ich nie pozrze, burza nie poniszczy.*

*Małe i liche miasto, co stoi w ruinie,*
*Czyż komu łzę wywoła, ciekawość obudzi?*
*Wędrowiec go w przejeździe obojętnie minie —*
*Jak mijamy podeszłych pospolitych ludzi.*

*Lecz ten starzec — to żołnierz lub bywalec może,*
*W ranach swych męztwa, w zmarszczkach ma długich lat dzieje,*
*Opowie ci swe losy, bitwy lub podróże. —*

*Miasto ma swoją przeszłość! swoje przywileje.*
*Przestarzały pergamin?! — o pożal się Boże!*
*Człek go już nie wyczyta i mól nawet nie je.*

## *МЯСТЭЧКА*

*Мястэчка дробнае стулілася ў нізіне,*
*Сярод развалін сям-там бачны сцены мура,*
*І тут, і там кляштар і вежа ці святыня —*
*Пакуль усіх не возьме час, не скрышыць бура.*

*Мястэчка дробнае, якое ўсё ў руіне,*
*Не выкліча слязы, цікавасці ні ў кога,*
*Вандроўнік абмінуць яго здалёк павінен,*
*Як заўжды абмінаем бедняка старога.*

*Ды той стары — жаўнер або бывалец, можа,*
*Хавае ў ранах мужнасць, а ў маршчынах — дзеі,*
*Пра лёс раскажа свой, пра бітвы, падарожжа.*

*Мінуласць у мястэчка ёсць і прывілеі,*
*Ды застарэлы пергамін — шкадуй нас, Божа! —*
*І моль не есць, і чалавек не разумее.*



## *ZAMEK*

*Za szerokiem jeziorem na krańcu krainy*
*Sterczy kamienny starzec — i niekiedy z wieży,*
*Długo, zwolna, wydzwania ubiegłe godziny —*
*Nim ostatnią dni swoich godzinę uderzy. —*

*W piersiach jego, jak w piersiach stuletnich żołnierzy,*
*Tylko pamięć na dawne zdarzenia i czyny, —*
*Teraźniejszość z przeszłością pogardliwie mierzy,*
*Znał ojców — jakże śmieszne w jego oczach syny!*

*Czy odżyje? czy wskrzesi swoje dawne losy,*
*Huczno — po Radźwiłłowsku — jeszcze ma nadzieję,*
*Jeszcze dziad śmiało strzela wieżami w niebiosy,*

*Jeszcze herby, obrazy, i szpargałów stosy —*
*Strzeże jak świętość — Boże! ta świętość spróchnieje*
*Jak słowo bez znaczenia, roślina bez rosy.*

*ЗАМАК*

*За возерам шырокім гожае мясціны*
*Стаіць каменны старац — і пад час вячэры*
*Ён з вежы збеглыя вызвоньвае гадзіны,*
*Пакуль апошніх хвіль сваіх не выб'е меры.*

*Ў грудзях яго, як у грудзях старых жаўнераў,*
*Пра чын і дзеі толькі даўнія ўспаміны, —*
*Цяпершасць і мінуласць ён з пагардай зверыў,*
*Бо знаў бацькоў — з сыноў смяяцца ёсць прычыны.*

*Ці ажыве? Ці ўскрэсіць ён даўнейшасць лёсаў,*
*Па-радзівілаўску — не адышла надзея —*
*Яшчэ дзед вежамі сягае да нябёсаў,*

*Пільнуецца гербоў і папяровых стосаў,*
*Бы святасці, якая — Божа! — спарахнее,*
*Як слова без значэння, як трава без росаў.*

*GROBY RADZIWIŁŁÓW*
*W kościele po-Jezuickim*

*Pod ogromną świątynią jest miejsce grobowe,*
*Jest sklepisko podziemne, w niém ołtarz i krata,*
*Dalej trumna przy trumnie — wszystkie hebanowe,*
*Wszystkie z dębu — w nich kości długie leżą lata.*

*Z trumien zgnilizna wieje — choć arystokrata*
*Przesiękły balsamami złożył tutaj głowę,*
*Zgniły pany i panie — tylko trwalsza szata,*
*Szkielet, herb — ci przypomni ich życia osnowę.*

*Swe imiona to złotem, to krwią nakreślili,*
*W wiecznej pamięci ludów, albo w dziejów karcie! —*
*Nie złorzecz... nie błogosław... oni ludźmi byli.*

*Cóż gdyby oni z grobów powstali w tej chwili?*
*Znówby bieżono do nich po łaski, po wsparcie,*
*Lecz oniby z pogardą oczy odwrócili...*



*ТРУНЫ РАДЗІВІЛАЎ*
*У па-езуіцкім касцёле*

*Ёсць пад святыняй пахавальнік адмысловы*
*І склеп падземны ёсць, а ў ім алтар і краты,*
*Далей жа дамавінаў шмат стаіць дубовых,*
*Што праз гады працяглыя касцьмі занятыя.*

*Гнілізнай з трунаў цягне — хоць арыстакраты,*
*Нацёртыя бальзамам, склалі тут галовы.*
*Згнілі паны і пані — хіба толькі шаты,*
*Шкілеты й герб напомняць іх жыцця асновы.*

*Сябе яны ўпісалі золатам, крывёю*
*Ў гісторыю і памяць вечную народаў.*
*Былі яны людзьмі, не рушце іх спакою.*

*А што, калі б усталі з трунаў хвіляй тою?*
*У іх прасілі б зноўку ласкі, ўзнагародаў,*
*Яны ж адказвалі б пагардаю сваёю.*



*ALBA*
*Zwierzyniec Radziwiłłowski*

*Ha! jak tu pięknie, miło, cienisto, zielono,*
*Wnijdź w aleje lip starych, w brzezinowe lasy, —*
*I myślą pradziadowską orzeźwij twe łono —*
*I przenieś twoją pamięć w pradziadowskie czasy.*

*Gdzie modlił się* Sierotka, *— gdzie Karol zapasy*
*Wiódł ze źwierzem — obaczysz sarnę przepłoszoną —*
*Gdzie wrzały pełne życia Albańców hałasy,*
*Sterczy pałac na łące ruderą czerwoną.*

*Wyspa... kanał... tu może... — precz stare wspomnienia*
*One ciężkie dla duszy — W sercu zniewieściałém*
*Może słodsze masz myśli i świeższe marzenia.*

*Może miłość?.. na trawie co lipa ocienia*
*Siądź szczęśliwcze i lubym nakarm się zapałem,*
*I ryj na korze cyfrę kochanki imienia...*

*АЛЬБА*
*Радзівілаўскі заапарк*

*Як тут цудоўна і цяніста і зялёна,*
*Зайдзі ў алею ліп і ў беразняк бялёсы,*
*Прадзедаўскаю думкай падбадзёрвай лона*
*І ў час даўнейшы думкаю сваёй заносся.*

*Маліўся тут Сіротка, Каралю вялося*
*На ловах: сарна тут выскоквала шалёна.*
*Тут калісь чулася альбанцаў шматгалоссе,*
*Цяпер адзін палац узносіцца чырвона.*

*Канал... ці выспа... можа — згадкі прэч старыя,*
*Яны зацяжкія, у сэрцы заняпалым*
*Прыемней мыслі ёсць і мары маладыя.*

*Мо любасць?.. Ценем ліпа хай мяне акрые,*
*Пад ёю сяду, перапоўнены запалам,*
*І выражу імя каханай на кары я...*

*ŚWIĘTY KRZYŻ, OPACTWO BENEDYKTYNÓW I MOGIŁY MIEJSKIE*

*Krzyż błyszczy się za lasem — daleko od miasta*
*Mieszkanie Eremitów bieleje się w lesie —*
*A wysoko na górze, jak oko doniesie,*
*Jest kościół — na około gęstwina zarasta.*

*Cisza... zaledwie czasem wiatr po liściach szasta,*
*Albo echo od dzwonów po wąwozach rwie się —*
*O! Tutaj często dzwonią przy śmiertelnych kresie —*
*To gród trupi — ludniejszy od żyjących miasta;*

*Mogiła przy mogile, syny trupich kości,*
*Robaki odraźliwe po ziemi się wleką, —*
*Trącasz nogą — to czaszka — w niej gadzina gości.*

*Smutno ci — zmów pacierze — nie złorzecz nicości*
*Szalony synu ziemi — bo dzień nie daleko*
*Kiedy żywy zmarłemu grobu pozazdrości...*



## *СВЯТЫ КРЫЖ, АБАЦТВА БЕНЕДЫКТЫНАЎ І МЕСТАЧКОВЫЯ МАГІЛЫ*

*За лесам крыж блішчыць — між зелені бялее*
*Пустэльнікаў будынак у ляску далёка,*
*А на гары вышэйшай, як сягае вока,*
*Стаіць касцёл — паўсюль гушчар кустоў гусцее.*

*Як ціха... Часам вецер у лістоце вее*
*Ці рэха ад званоў разносіцца навокал,*
*Па-над мяжой жыцця і смерці мкне высока —*
*То ж горад мёртвых — не жывых: ён не пусцее.*

*Магіла ля магілы, сын ад трупа-косці —*
*Чарвяк варушыцца ў зямлі агідна слізкі,*
*Нагой зачэпіш чэрап — гад запоўз у госці.*

*Ты пацеры шапчы і тлен не лай у злосці,*
*Шалёны сын зямлі, бо дзень ужо той блізкі,*
*Калі жывы памерламу пачне зайздросціць.*

*DO BOGARODZICY*
*W Słuckiej bramie*

*Bogarodzico! ku litości łatwa,*
*Ty, co zrzenicą czuwasz niezmrużoną*
*W bramie na warcie — aby twoja dziatwa*
*Bezpiecznie spała pod twoją obroną!*

*O! strzeż tych świątyń, w których syn twój słodki*
*Odbiera od nas ofiary codzienne:*
*I strzeż te domy, te baszty kamienne,*
*Te rozwaliny — dawny gród Sierotki.*

*...........................................................*)*

**) Nad jedyną jaka była w Nieświeżu brama nazwana Słucką, jest kaplica N.P. Maryi z ołtarzem, przypominająca Ostrą Bramę Wileńską.*



***ДА БАГАРОДЗІЦЫ***
***У Слуцкай браме***

*О, Багародзіца, Ты праз сталецці*
*У міласэрнасці не змружыш вочы*
*На варце ў браме, каб Твае ўсе дзеці*
*Тут чуліся ў бяспецы ўдзень і ўночы.*

*Пільнуй святыні, дзе Твой сын салодкі*
*Бярэ ад нас ахвяры неадменна,*
*Пільнуй дамы і вежаў шыхт каменны,*
*Руіны — даўні гарадок Сіроткі.*

.............................................................. *

** Над адзінай у Нясвіжы брамай, названай Слуцкаю, ёсць капліца Найсвяцейшай Панны Марыі з алтаром, што нагадвае Вострую браму ў Вільні.*



*Змест*



*Літаратурна-мастацкае выданне*

*Сыракомля Уладзіслаў*

**Згадкі Нясвіжа**

*Санеты*

*Рэдактар*
*Валянціна Марціновіч*

*Карэктар*
*Валянціна Дзядовіч*

*Макетаванне*
*Віталь Катовіч*

Падпісана да друку 25.02.02. Фармат 60х90 1/16. Папера афсетная.
Гарнітура Times. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 1,25.
Ул.-выд. арк. 1,1. Наклад 300 паасобнікаў. Замова № 6.
Выдавецтва "Тэхналогія". ЛВ № 73 ад 07.08.01.
Сертыфікат выдавецкай дзейнасці МН № 0000385.
220007, Мінск, вул. Ляўкова, 19.
Друк НВК "Тэхналогія". ЛП № 153 ад 07.08.01.
220007, Мінск, вул. Ляўкова, 19.

*Za szerokiem jeziorem na kraniec krainy*
*Sterczy kamienny starzec — i niekiedy z wieży*
*Długo, zwolna, wydzwania ubiegłe godziny*
*Nim ostatnią dni swoich godzinę uderzy. —*

*W piersiach jego, jak w piersiach stuletnich żołnierzy*
*Tylko pamięć na dawne zdarzenia żywy, —*
*Teraźniejszość z przeszłością pogardliwie mierzy*
*Znał ojców — jakże śmieszne w jego oczach syny*

*Czy odżyje? czy wskrzesi swoje dawne losy*
*Huczno — po Radźwiłłowsku — jeszcze ma nadzieję*
*Jeszcze dziad śmiało strzela wieżami w niebiosy*

*Jeszcze herby, obrazy, i szpargałów stosy —*
*Strzeże jak świętość — Boże! ta świętość spróchniały*
*Jak słowo bez znaczenia, roślina bez ros*

Syrokomla



ISBN 985-458-061-X